ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

УПРАЎЛЕННЕ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

ДЛЯ СЛУЖБОВАГА КАРЫСТАННЯ

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



## № 1 (63)

[№ 1-3, 6-10]

СТУДЗЕНЬ 1938 г.

ВЫДАННЕ УНГУ БССР
МЕНСК — 1938

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

УПРАЎЛЕННЕ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

ДЛЯ СЛУЖБОВАГА КАРЫСТАННЯ

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 1 (63)

СТУДЗЕНЬ 1938 г.



ВЫДАННЕ УНГУ БССР
МЕНСК — 1938

Зацверджана УНГУ БССР 7/XII 1937 г. № 123

Табель форм перыядычнай справаздачнасці на 1938 г. па сістэме Ўпраўлення кнігагандлю Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі

| №№ п/п. | №№ форм | Назва форм | Хто прадстаўляе | Каму прадстаўляецца | Перыядычнасць прадстаўлення | Тэрмін прадстаўлення | Спосаб прадстаўлення | Лік паказчыкаў | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | Па падл. | Па сказ. |
| 1 | 1 | Справаздача аб руху тавараў у рознічнай сеці . . . . . . . . | 1 філіял 2 ДВБ | ДВБ НКУГ БССР УНГУ БССР | Месячная | 5 чысла, 8 чысла за справазд. м-ц | Поштай | 4 | 10 |
| 2 | 2 | Справаздача аб рознічным таваразвароце . . . . . . . . . . | 1 філіял 2 ДВБ | ДВБ і Горунутгандаль УНГУ БССР НКУГ БССР | " | " | " | Па колькасці раёнаў | 1 |
| 3 | 3 | Справаздача аб рознічнай сеці | 1 філіял 2 ДВБ | ДВБ і Горунутгандаль НКУГ БССР УНГУ БССР | Кварт. | " | " | " | 4 |
| 4 | 4 | Справаздача аб становішчы складской сеці . . . . . . . . | ДВБ | НКУГ БССР УНГУ БССР | Поўгадавая | 7 чысла | " | 4 | 5 |

Зацверджана УНГУ БССР 2/XII 1937 г. № 122

**Табель аперацыйна-статыстычнай справаздачнасці ОРС'а Белдзяржторфа на 1938 г.**

| №№ п/п. | Назва форм | №№ форм | Каму прадстаўляецца | Тэрмін прадстаўлення | У які тэрмін пасля скончэння справазд. перыяда прадстаўляецца | Спосаб прадстаўлення | Колькі паказч. | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | Па падл. | Па сказ. | |
| 1 | Картка тэрміновых данясенняў . | 1 | НКУГБССР, УНГУ | Мес. у раённым разрэзе | На 7-мы дзень пасля справазд. перыяда | Поштай | Колък. ОРС'аў | 4 | |
| 2 | Справаздача аб выдаткаванні мукі, крупы, макарон і зерна-фуража | 2 | НКУГ БССР | Месячная | На 13-ты дзень | „ | 26 | 3 | |
| 3 | Справаздача аб рознічнай рэалізацыі харчовых тавараў і тавараў штодзённага попыту . . . . . . . | 3 | „ | „ | На 7-мы дзень | „ | 13 | 2 | |
| 4 | Справаздача аб руху тавараў . . | 4 | НКУГ БССР УНГУ | Квартальная | На 17-ты дзень | „ | 41<br>15 | 6<br>1 | |
| 5 | Квартальная справаздача аб рознічнай сеці і сеці грам. харчавання | 8 | „ | Квартальная ў раён. разрэзе | На 15-ты дзень | „ | 8 | 4 | |
| 6 | Справаздача аб складской сетцы . | 9 | „ | Поўгадавая | На 10-ты дзень | „ | 3 | 3 | |
| 7 | Справаздача па грамадскаму харчаванню . . . . . . . . . . . . . | 10 | „ | Квартальная | На 17-ты дзень | „ | 2<br>5<br>15 | 8<br>3<br>5 | |
| 8 | Справаздачная картка па працы і фондах зарплаты . . . . . . . . | 5 | НКМП БССР УНГУ | „ | На 15-ты дзень | „ | 16 | 9 | Зацверджана ЦУНХУ 11/I 1936 г. № 30 |

Зацверджана УНГУ БССР 3/XII 1937 г. № 122

## Табель перыядычнай аперацыйна-статыстычнай справаздачнасці па сельскай гаспадарцы ОРС'аў торфзаводаў Белторфтрэста НКМП БССР на 1938 год

| №№ п/п. | Назва форм справаздачнасці | Спосаб адсылкі | №№ форм | Колькасць паказчыкаў | За які перыяд прадстаўляецца | Каму прадстаўляецца | Тэрмін адсылкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Справаздача аб рамонце трактароў і сельскагападарчага інвентара для веснавой пасеўнай кампаніі . . | Поштай | 11 | 1× 8 | Месячная з 1/XI па I/IV | ОРС'у Белторфа | На 3-ці дзень па скапчэнні справаздачнага перыяда |
| 2 | Справаздача аб наяўнасці насення і становішча цягавай сілы да веснавой пасеўнай кампаніі . . . . | » | 12 | 3×19 | Месячная з 1/I па I/IV | » | На 5-ты дзень па сканчэнні справаздачнага перыяда |
| 3 | Справаздача аб вывазцы арганічных і штучных угнаенняў і парніковай гаспадарцы . . . . . . . . | » | 13 | 5× 7 | Поўмесячная з I/XI па I/V і месячн. з I/V па I/VI | » | На 2-гі дзень пасля поўмесяца і на пяты дзень па сканчэнні справаздачнага перыяда |
| 4 | Справаздача аб ходзе прапалачнай кампаніі, пакосе і ўборцы траў | » | 14 | 5×11 | Дэкадная з пачатку кампаніі | » | На другі дзень па сканчэн. справазд. перыяда |
| 5 | Справаздача аб жывёлагадоўлі . | » | 15 | 65× 1 | Месячная на працягу года | » | На сёмы дзень па сканчэн. справазд. перыяда |

(Працяг)

| №№ п/п. | Назва форм справаздачнасці | Способ адсылкі | №№ форм | Колькі паказчыкаў | За які перыяд прадстаўляецца | Каму прадстаўляецца | Тэрмін адсылкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | Справаздача аб відах на ўраджай | У тэрміны, адрасы і па форме, прадугледжанай інструкцыяй камісіі па вызначэнню ўраджайнасці пры СНК БССР | | | | | |
| 7 | Справаздача аб ходзе веснавых работ і яравой сяўбы . . . . . . . | Прадстаўляецца ў тэрміны, памянёныя ў форме ОРС'а Белторфа і райЗА. Формамі забяспечвае мясцовы райЗА | | | | | |
| 8 | Справаздача аб ітогах веснавой пасеўнай кампаніі . . . . . . . . . | Поштай | 16 | 13× 4<br>14× 6<br>2× 3 | Разавая | ОРС'у Белторфа | На 10-ты дзень па сканчэнні сяўбы |
| 9 | Справаздача аб ходзе ўборкі ўраджаю, сіласавання кармоў, пасеву азімых, зяблевага ворыва і здачы хлеба дзяржаве . . . . . . . | „ | 17 | 3×18 | Дэкадная з пачатку ўборачнай кампаніі | „ | На 3-ці дзень па сканчэнні справаздачнага перыяда |
| 10 | Справаздача аб ітогах уборкі . . | „ | 18 | 25× 6 | Разавая | „ | На пяты дзень па сканчэнні ўборачнай кампаніі |

Зацверджана УНГУ БССР 2/XII 1937 г. № 122

**Табель аперацыйна-статыстычнай справаздачнасці па гандлёвай дзейнасці, грамадскаму харчаванню, хлебапячэнню і працы для ОРС·аў Белдзяржторфа на 1938 г.**

| №№ п/п. | Назва форм | №№ форм | Каму прадстаўляецца | Тэрмін прадстаўлен. | У які тэрмін пасля сканчэння справаздачнага перыяда прадстаўл. | Способ прадстаўлен. | Кольк. паказч. Па падлеж. | Кольк. паказч. Па сказ. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **I. Гандлёвая дзейнасць** | | | | | | | | |
| 1 | Картка тэрміновых данясенняў . | 1 | ОРС'у Белторфа, Горрайунутгандлю | Месячная | На 2-гі дзень пасля справаздач. месяца | Поштай | 4 | 1 | |
| 2 | Справаздача аб продажы і перадачы грам. харчаванню і закрытым установам мукі, крупы, макарон і зерна-фуража . . . . . . . . . . | 2 | ОРС'у Белторфа, Горрайунутгандлю | „ | На 5-ты дзень | „ | 12 | 2 | |
| 3 | Справаздача аб рознічнай рэалізацыі харчовых тавараў, тавараў штодзённага попыту . . . . . . . | 3 | ОРС'у Белторфа, Горрайунутгандлю | „ | На 2-гі дзень | „ | 13 | 2 | |
| 4 | Справаздача аб адгрузцы тавараў | 7 | ОРС'у Белторфа | „ | „ | „ | 18 | 3 | |
| 5 | Справаздача аб руху тавараў . . | 4 | ОРС'у Белторфа | Кварт. | На 10-ты дзень | „ | 41<br>15 | 6<br>1 | |
| 6 | Квартальная справаздача аб рознічнай гандлёвай сетцы і сетцы грамадскага харчавання . . . . . . | 8 | ОРС'у Белторфа | „ | На 8-мы дзень | „ | 7 | 4 | |

(Працяг)

| №№ п/п. | Назва форм | №№ форм | Каму прадстаўляецца | Тэрмін прад-стаўлен. | У які тэрмін пасля сканчэння справаздачнага перыяда прадстаўл. | Спосаб прад-стаўлен. | Кольк. паказч. Па падлеж. | Кольк. паказч. Па сказ. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **II. Грамадскае харчаванне** | | | | | | | | |
| 7 | Справаздача па грамадскаму харчаванню . . . . . . . . . . . . | 10 | ОРС'у Белторфа | Кварт. | На 10-ты дзень | Поштай | 2<br>5<br>15 | 8<br>3<br>5 | |
| | **III. Хлебапячэнне** | | | | | | | | |
| 8 | Справаздача аб руху мукі і выпечкі хлеба па хлебавыпякаючых арганізацыях . . . . . . . . . . . | 6 | ОРС'у Белторфа, Горрайунутгандлю | Месячная | На 3-ці дзень | » | 8 | 5 | |
| | **IV. Па працы** | | | | | | | | |
| 9 | Справаздачная картка па ўчоту працы і фондаў зарплаты . . . . . | 5 | ОРС'у Белторфа | Кварт. | На 10-ты дзень | » | 16 | 9 | Зацверджана ЦУНХУ 11/I 1936 г. № 30 |

Зацверджана УНГУ БССР 16/XII 1937 г. № 126

**Табель форм перыядычнай справаздачнасці на 1938 г. Цэнтральнага камітэта сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі Наркомсабеза БССР**

| №№ п/п. | №№ форм | Назва форм | Хто прадстаўляе | Каму прадстаўляецца | Перыядычнасць | Тэрмін прадстаўлення | Спосаб прадстаўлен. | Лік пакавч. Па падл. | Лік пакавч. Па сказ. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | Фінансава-статыстычная справаздача аб рабоце кас грамадскай узаемадапамогі . . . . . . . . . . | 1. Калгасныя касы ўзаемадапамогі | 1. Райсабезу | Кварт. | 1. Не пазней 5 числа наступнага месяца за справаздачным кварталам | Поштай | 7 | 2 |
| | | | 2. Райсабезы | 2. Нарkомсабезу БССР | „ | 2. Не пазней 10 числа наступнага за кварт. месяца | „ | 16 | 3 |
| 2 | | Фінансава-статыстычная справаздача Райсабеза . . . . . . . . . | 1. Райсабезы | 1. Наркомсабезу БССР | „ | „ | „ | 16 | 1 |

Зацверджана УНГУ БССР 16/XII 1937 г. № 127

**Табель форм перыядычнай справаздачнасці па гандлёвай дзейнасці на 1938 г. Цэнтральнай дзіцячай камісіі пры ЦВК БССР**

| №№ п/п. | №№ форм | Назва форм | Хто прадстаўляе | Каму прадстаўляецца | Перыядычнасць | Тэрмін прадстаўлення | Спосаб прадстаўлен. | Лік паказч. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | Па падл. | Па сказ. |
| 1 | | Справаздача па таваразвароту . . | Цэнтральная дзіцячая камісія пры ЦВК БССР | 1. Наркомунутгандаль БССР<br>2. Горунутгандаль<br>3. УНГУ БССР | Месячная | На 5-ты дзень пасля справаздачнага месяца | Поштай | 2 | 1 |
| 2 | | Справаздача аб паступленні і астачах тавараў . . . . . . . . . . | » | » | Кварт. | На 8-мы дзень пасля справаздачнага квартала | » | 6 | |

## Усім рай(гор)інспектарам народна-гаспадарчага ўчота і начальнікам акр.УНГУ.

Загадам наркома аховы здароўя СССР ад 4-га лістапада 1937 г. за № 1257 і загадам наркома аховы здароўя БССР ад 29 чэрвеня 1937 г. намечана правесці рад мерапрыемстваў аб перабудове і паляпшэнні ўчотна-статыстычнай работы ў установах і органах аховы здароўя.

Загад Наркомздрава БССР абавязвае:

1. Установіць штатную адзінку інструктара-статыстыка ва ўсіх больніцах з лікам ложкаў больш 100, ва ўсіх туберкулёзных і венерычных дыспансерах, гарадскіх кансультацыях, санітарных станцыях, медінстытутах, рабфаках і школах па падрыхтоўцы сярэдняга медперсанала.
2. Арганізаваць у паліклініках 12-ці найбольш буйных гарадоў БССР спецыяльныя габінеты ўчота і статыстыкі.
3. Вылучыць ва ўсіх іншых медустановах аднаго з сярэдніх медработнікаў, адказнага за ўчот.
4. Уключыць у каштарыс райаддзела аховы здароўя з 1/I 1938 г. штатную адзінку статыстыка.
5. Арганізаваць пры інстытуце соцаховы здароўя сектар санітарнай статыстыкі.
6. Арганізаваць у 1938 г. пры інстытуце ўдасканалення медкадраў курсы па падрыхтоўцы раённых статыстыкаў і статыстыкаў лекавых установаў.

Так як правядзенне намечаных мерапрыемстваў павінна адыграць вялікую ролю ў павышэнні ахопа і якасці вучэбных матэрыялаў органамі аховы здароўя, УНГУ БССР прапануе вам: праверыць, як мясцовыя аддзелы аховы здароўя і лекавыя ўстановы ажыццяўляюць вышэйпаказаныя мерапрыемствы па паляпшэнню ўчота і справаздачнасці ў галіне аховы здароўя, і аб выніках паведаміць нам да 15/I 1938 г.

Нам. начальніка УНГУ БССР Шындлер.

Нач. Аддз. насельніцтва і аховы здароўя Астапчук.

## Усім рай(гор)інспектарам наргасучота, копія акр.УНГУ.

Згодна оргплана правядзення кантрольнага ўчота ўстаноў народнай асветы (гл. бюлетэнь № 8 за жнівень 1937 г.) на 1/I 1938 г. праводзіцца ўчот агульнаадукацыйных школ і груп для дарослых (ф. № III), кіноўстановак (ф. № VI) і газет (ф. № VII).

Каб пазбегнуць тых памылак, якія былі пры правядзенні ўчота гэтых устаноў на 1/X 1936 г., УНГУ БССР прапануе ўважліва азнаёміцца за інструктажам участковых інспек-

тароў і інструкцыйнымі ўказаннямі, змешчанымі на спісах ф. ф. III, VI, VII, а таксама з наступнымі дадатковымі ўказаннямі:

## І. Па ўчоту агульнаадукацыйных школ і груп дарослых.

1. Учоту падлягаюць усе школы і групы непісьменных, малапісьменных і школы павышанага тыпа незалежна ад іх бюджэтнай падпарадкаванасці, за выключэннем тых школ і груп, якія знаходзяцца пры вайсковых часцях.

2. Для навучання дарослых звычайна арганізоўваюцца пры дзённых школах вячэрнія школы для непісьменных і малапісьменных. Школы гэтыя арганізоўваюцца асобна для непісьменных і асобна для малапісьменных.

У тым выпадку, калі лік непісьменных і малапісьменных нязначны, тады арганізоўваецца змешаная школа для непісьменных і малапісьменных.

Такія змешаныя школы павінны быць паказаны ў зводцы ф. III альбо як школы непісьменных (калі лік непісьменных перавышае лік малапісьменных) альбо як школы малапісьменных (калі лік малапісьменных перавышае лік непісьменных). Вучні-ж гэтых змешаных школ адносяцца да непісьменных і малапісьменных.

3. Для зручнасці запаўнення зводкі рэкамендуецца выдзеліць асобна як у ф. К „У" участковых інспектароў, так і ў ф. № III раённага спіса гэтыя змешаныя школы асобным раздзелам з указаннем асобна ліка вучняў непісьменных і малапісьменных, напрыклад:

В. Змешаныя школы.

| №№ п. п. | Назва школы або групы | Месцазнаходжанне школы | Настаўнікаў: Платных | Настаўнікаў: Бясплатных | Навучаецца на 1/І 1938 г. | Для адзнак |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | РайАНА | | | | | |
| 1. | Калгасныя: | К-с імя Сталіна, Дукорскага с/с | 1 | — | | |
| | а) непісьменных . . . | | | | 5 | |
| | б) малапісьменных . . | | | | 8 | |
| 2. | Калгасныя: | Калгас „Май", Дукорскага с/с | 1 | — | | |
| | а) непісьменных . . . | | | | 10 | |
| | б) малапісьменных . . | | | | 6 | |

Школа № 1 павінна быць аднесена ў зводцы да школ малапісьменных, а № 2 да школ непісьменных; навучаючыяся непісьменныя (5+10)—да навучаючыхся ў школах непісьменных, а малапісьменныя (8+6)—да навучаючыхся ў школах малапісьменных.

4. Акрамя гэтых спецыяльна арганізоўваемых школ для дарослых, пры дзённых школах маюцца таксама групы, не прымацаваныя да школ. Гэтыя групы падлягаюць учоту нараўне са школамі.

5. У спісу ф. № III усе тыпы школ (для напісьменных раздз. „А“, малапісьменных раздз. „Б“, змешаныя раздз. „В“ і школы павышанага тыпа раздз. „Г“) павінны быць занесены наступным чынам па бюджэтнай падпарадкаванасці.

а) усе школы рай(гор)АНА з ітогам,

б) усе школы профсаюзаў з ітогам і

в) усе школы іншых ведамстваў і арганізацый з ітогам.

6. Пры школах павышанага тыпа могуць таксама быць класы III і IV як падрыхтоўчыя.

7. Адначасова з правядзеннем школ дарослых патрэбна скласці спіс школ падросткаў (форма спіса прыкладаецца).

Гэтыя школы арганізоўваюцца для падросткаў 14—18-гадовага ўзросту. Навучанне ў іх можа быць дзённым, а таксама і вячэрнім.

Спіс гэтых школ прадстаўляецца ў УНГУ БССР разам з ф. № III.

8. У мэтах кантроля выканання плана паведамляецца план 1937 г. па вашаму раёну.

## II. Па ўчоту кіноўстановак.

1. Тыя кіноўстаноўкі, якія абслугоўваюць сельскія мясцовасці, павінны быць аднесены к сялу, не гледзячы на тое, што тая арганізацыя, у веданні якой яны знаходзяцца, змяшчаецца ў горадзе.

## III. Па ўчоту газет.

1. Асаблівую ўвагу звярніце на тое, каб улічаны былі ўсе газеты, якія існавалі ў 1937 г. Падрабязна аб гэтым гл. інструкцыйныя ўказанні па ф. № VII.

Тэрміны прадстаўлення:

| | | |
|---|---|---|
| Форма № VII | . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 20/I 1938 г. |
| „ „ VI | . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 25/I 1938 г. |
| „ „ III | . . разам са спісам школ падросткаў | 30/I 1938 г. |

Нам. начальніка УНГУ БССР Шындлер.

Кір. секцыі культуры і навукі Гольдберг.

## Аб недахопах у рабоце па ўчоту капіталаўкладанняў у будаўніцтва, падпарадкаванае РВК.

Да галоўных недахопаў у рабоце некаторых райінспектур патрэбна аднесці не крытычны падыход да матэрыялаў, якія па роду дзейнасці атрымлівае інспектура. Побач з гэтым сустракаюцца і такія выпадкі, калі інспектура добраякасныя даныя ператварае ў брак.

Звернемся да фактаў: Клімавіцкая інспектура атрымала ад райздраўаддзела „отчет о капитальных вложениях" ф. № 101 па становішчу на 1/XII—37 г., у якім паведамляецца, што поўная вартасць радзільнага дома па каштарысу складае 58 700 рубл. Да 1/I—37 г. будаўніцтва выканана ў цэнах каштарыса на 46 159 рубл. 47 кап. Далей „отчет" паведамляе, што па плану на 1937 г. на той-жа аб'ект вызначана 58 700 рубл. яшчэ раз, і будаўніцтва выканана ў цэнах каштарыса яшчэ раз на суму 46 159 р. 47 кап., прычым фактычныя выдаткі ні на капейку не адрозніваюцца ад цэн, вызначаных па каштарысу: яны таксама складаюць 46 195 р. 47 кап.

Калі верыць „отчету", то Клімавіцкі райздраўаддзел два разы атрымлівае адну і тую-ж суму на будаўніцтва аднаго і таго-ж радзільнага дома. Два разы пачынае яго будаваць і ў абодвух выпадках будаўніцтва аднаго і таго-ж дома выконвае на 79 проц. Прычым будаўніцтва праводзіцца строга ў вызначаных каштарысам рамках, ні на адну капейку фактычныя выдаткі не разыходзяцца з выдаткамі, вызначанымі па каштарысу. Ідэальна складаюцца каштарысы ў Клімавіцкім раёне і ідэальна яны выконваюцца!

А вот у Тураўскім раёне, калі верыць інспектуры, якасць каштарысаў нікудышная. Так, калі па каштарысу вызначана на будаўніцтва 87 000 р., то гэтыя работы выконваюцца за 40 000 рубл.

У Буда-Кашелеўскім раёне для будаўніцтва ўведзена новая сістэма лічэння, і інспектура гэтую сістэму прымае для зводак па ўчоту капіталаўкладанняў. Будуюць там два жыллёвых дамы. Вартасць іх па каштарысу вызначана ў 112 900 рубл., да першага студзеня 1937 г. будаўніцтва выканана па каштарысных цэнах на 45 900 рубл., па плану 1937 г. на будаўніцтва гэтых-жа дамоў вызначана таксама 112 900 рубл. Па звычайнай арыфметыцы поўная каштарысная вартасць 2-х жыллёвых дамоў складае 45 900 рубл., выдаткаваных у 1936 г. плюс 112 900 рубл., вызначаных на 1937 г., што роўна 158 800 рубл., а па новай сістэме, прынятай Б.-Кашалеўскай інспектурай, будзе складаць 112 900 рубл.

Гэтыя прыклады паказваюць, што некаторыя райінспектары лічаць сваім абавязкам штампаваць усё, што ім пра-

падносяць, не гледзячы на тое, што ў некаторых выпадках гэта яўная бязглуздзіца.

20 студзеня 1938 года ўсе райінспектуры павінны будуць прадставіць „Сводную таблицу по учету капиталовложений в строительство риковского подчинения" за снежань м-ц 1937 г., якая разам з гэтым з'явіцца зводкай выканання плана па капіталаўкладаннях за ўвесь 1937 г.

У сувязі з гэтым перад райінспектарамі паўстаюць наступныя задачы:

1. Атрымаць у планавым аддзеле РВК спіс аб'ектаў, па якіх былі запланіраваны капіталаўкладанні на 1937 г.

2. Сабраць і праінструктаваць тых працаўнікоў раённых устаноў і прадпрыемстваў, якія непасрэдна будуць складаць „отчет о капиталовложениях" ф. № 101, маючы на ўвазе тое, што ф. № 101 за снежань з'яўляецца разам з тым і квартальнай.

3. Забяспечыць прадстаўленне ф. № 101 строга ў вызначаны тэрмін, г. зн. 15/I 1938 г.

4. Прасачыць, каб па кожнаму аддзелу РВК, кожнаму прадпрыемству і арганізацыі, падпарадкаванай РВК, калі яны мелі капіталаўкладанні ў 1937 г., быў складзен „отчет о капитальных вложениях" ф. № 101 і каб у „отчете" былі паказаны ўсе выдаткі на капіталаўкладанні.

5. Праверыць правідловасць запаўнення ф. № 101, звярнуўшы асаблівую ўвагу на тое, што гр. 3 запаўняецца толькі ў тым выпадку, калі будаўніцтва распачата ў 1936 г. і раней.

Ва ўсіх выпадках, калі даныя гр. 6 роўны даным гр. 7, неабходна дадаткова правяраць, ці не паказаны ў гр. 6 замест вартасці выкананых работ па каштарысу фактычныя выдаткі. Тут патрэбна мець на ўвазе, што фактычныя выдаткі толькі ў выключных выпадках будуць саўпадаць з выдаткамі, вызначанымі па каштарысу.

Пры гэтым можна будзе спаткаць ад падсправаздачных асоб такія тлумачэнні: „Мы атрымалі пэўную суму і ўсю яе выдаткавалі і ніякіх астаткаў і перавыдаткаў мы не маем".

Адгэтуль яны робяць вынік, што фактычныя выдаткі роўны выдаткам, вызначаным па каштарысу.

Гэта было-б правідлова толькі ў тым выпадку, калі-б на выдаткаваныя сродкі было пабудавана ці набыта роўна столькі, колькі было вызначана па каштарысу. У большасці-ж выпадкаў маецца такое становішча, калі на адпушчаныя сродкі было зроблена больш або менш, чым гэта прадугледжвалася па каштарысу. У першым выпадку сума гр. 7 будзе меншая сумы гр. 6, а ў другім—сума гр. 7 будзе большая сумы гр. 6 (больш падрабязнае тлумачэнне дано ў н/лісце ад 17/XII—37 г.).

Праверыць, каб у гр. гр. 11 і 14 былі паказаны натуральныя паказчыкі адпаведна прызначэнню аб'екта, напрыклад: для бальніцы—колькасць ложкаў, для школы—колькасць месц для адной змены, для жыллёвых дамоў—кв. метр. жыллёвай плошчы і г. д.

6. Забяспечыць, каб неправідлова складзеныя карткі ф. № 101 былі неадкладна выпраўлены.

7. Праверыць правідловасць складання „Сводной таблицы" супрацоўнікамі інспектуры.

Аддзел капітальных работ УНГУ БССР.

## Усім інспектарам наргасучота

На падставе пастановы СНК СССР ад 11 студзеня 1934 г. за № 62 будзе праведзен усесаюзны перапіс сацыялістычнай прамысловасці.

Задачай перапісу з'яўляецца атрыманне ітогаў аб колькасці прадпрыемстваў, рабочых, аб кошту валавой прадукцыі, асноўных фондаў прамысловасці за 1937 год.

Матэрыялы перапісу з'явяцца асновай для падвядзення ітогаў выканання прамысловасцю другога пяцігадовага плана. Адначасова матэрыялы перапісу дадуць неабходныя даныя для рашэння пытанняў, звязаных з развіццём і ўмацаваннем дробнай прамысловасці, вытвараючай прадметы шырокага спажывання і абслугоўваючай гаспадарчыя і бытавыя патрэбы насельніцтва.

Промаддзел УНГУ БССР прыступіў да складання спісаў прамысловых прадпрыемстваў, падлягаючых перапісу, па матэрыялах перапісу 1935 г. і гадавому абследванню памысловасці за 1936 год. Пасля складання спісы прадпрыемстваў, падлягаючых перапісу, будуць дасланы ў райінспектуры для праверкі і запаўнення. Праверку атрыманых спісаў неабходна будзе правесці праз участковых райінспектароў, а таксама сіламі работнікаў райінспектуры.

Пры гэтым вам накіроўваецца для азнаямлення і правядзення падрыхтоўчай работы арганізацыйны план правядзення перапісу, тыпавы бланк перапісу і форма спіса прадпрыемстваў, падлягаючых перапісу.

Дасылаемы матэрыял неабходна прапрацаваць з участковымі інспектарамі і іншымі работнікамі райінспектуры.

ЧВА начальніка Упраўлення наргасучота БССР Абудзееў.

Начальнік Аддзела ўчота прамысловасці Гоўзман.

## Оргплан усесаюзнага перапісу (рэгістрацыі) социялістычнай прамысловасці за 1937 г.

Усесаюзны перапіс (рэгістрацыя) соцыялістычнай прамысловасці праводзіцца на аснове пастановы СНК СССР ад 11 студзеня 1934 года № 62.

Задачай перапісу з'яўляецца атрыманне ітогаў аб колькасці прадпрыемстваў, рабочых і кошту прадукцыі соцыялістычнай прамысловасці за 1937 г. На аснове матэрыялаў перапісу і гадавых справаздач органамі Наргасучота павінны быць падведзены поўныя ітогі выканання прамысловасцю другога пяцігадовага плана.

Матэрыялы перапісу павінны даць абласным і рэспубліканскім кіруючым органам неабходныя даныя для вырашэння пытанняў, звязаных з развіццём і ўмацаваннем прамысловасці, вытвараючай прадметы шырокага спажывання і абслугоўваючай гаспадарчыя і бытавыя патрэбы насельніцтва.

Маючы на ўвазе вялікае значэнне правадзімага перапісу, абласныя (краявыя) УНГУ, раённая гарадская інспектура і ўчастковыя інспектары павінны забяспечыць своечасовае скончэнне ўсяго перапісу і высокую якасць яго матэрыялаў.

### Круг прадпрыемстваў і бланкі перапісу.

1. Перапісу падлягаюць усе прамысловыя прадпрыемствы дзяржаўных, кааперацыйных і грамадскіх арганізацый, маючыя рухавік, а пры адсутнасці рухавіка—прадпрыемствы, маючыя 3 і больш занятых асоб у адным з месяцаў 1937 г., уключаючы працуючых на даму, вучняў і служачых.

Акрамя гэтага перапісу падлягаюць:

а) прадпрыемствы без рухавікоў у калгасах з 1 і 2 працуючымі,

б) млыны, крупадзёркі і маслабойкі, уключаючы вадзяныя, ветраныя і з конным прыводам.

2. Перапісу падлягаюць прадпрыемствы ўсіх галін прамысловасці, уключаючы рыбную прамысловасць і лясныя распрацоўкі.

Па лесазагатоўках перапісу падлягаюць усе загатаўцелі лесу, загатаваўшыя ў 1937 г. 500 і больш куб. метраў драўніны.

3. Перапісу падлягаюць усе задавальняючыя вышэйпаказаным умовам прадпрыемствы, дзейнічаючыя ў 1937 г. незалежна ад працягласці іх работы.

Млыны, крупадзёркі і маслабойкі, бяздзейнічаючыя ў 1937 г., запаўняюць бланк перапісу толькі ў частцы абсталявання з паказаннем прычыны бяздзейнічання.

4. Перапісу не падлягаюць прадпрыемствы культурна-бытавога характара: цырульні, лазні, пральні, сталовыя (акрамя

фабрык-кухань, якія перапісваюцца па асобнаму спісу), фатаграфіі і г. д.

5. Ад запаўнення бланкаў перапісу вызваляюцца прадпрыемствы прамысловых наркаматаў (НКЦП, НКМаш), НКОП, НКЛП, НКЛес, НКПП, НКМясцпромы, Камітэты мастацтва), прамысловай і ляснай кааперацыі, рыбакалгасцэнтра, за выключэннем паасобных прадпрыемстваў пры будаўніцтве, гандлёвых загатоўчых снабжэнчаскіх арганізацыях, пры інстытутах, навучальных установах і ўстановах гэтых наркаматаў і арганізацый.

6. Прадпрыемствы, падлягаючыя перапісу, запаўняюць наступныя бланкі:

1. Млыны, крупадзёркі і маслабойкі . . . . . бланк ф. № 2
2. Друкарні . . . . . . . . . . . . . . . . . . . „ ф. № 3
3. Чыгуначныя майстэрні . . . . . . . . . . „ ф. № 4
4. Лесазагатоўкі . . . . . . . . . . . . . . . . „ ф. № 6
5. Прадпрыемствы рыбнай прамысловасці . . . „ ф. № 7
6. Прадпрыемствы па здабычы мінералаў для будаўніцтва і па вытворчасці будаўнічых матэрыялаў . . . . . . . . . . . . . . . . . „ ф. № 8
7. Усе астатнія прадпрыемствы . . . . . . . . „ ф. № 1
8. Прадпрыемствы калгасаў, уключаючы таксама з 1 і 2 працуючымі, улічваюцца па спісу . . „ ф. № 5

7. Бланк перапісу складаецца на кожнае асобнае прамысловае прадпрыемства (завод, фабрыка, млын, майстэрня). Бланкі перапісу прадстаўляюцца прадпрыемствам у райінспектуру ў двух экземплярах.

8. Рэспубліканскім абл.(край)УНГУ прадастаўляецца права па дагаворанасці з ведамствамі атрымаць бланкі перапісу ў цэнтралізаваным парадку ад адпаведных арганізацый ці замяняць іх прадстаўленнем адпаведных форм гадавой справаздачы.

### Парадак і тэрмін правядзення перапісу.

1. Кіраўніцтва перапісу ў саюзных рэспубліках, абласцях, краях і аўтаномных рэспубліках ускладаецца на прамысловыя аддзелы адпаведных УНГУ.

2. Перад пачаткам перапісу рэспубліканскія абл.(край) УНГУ і рай(гор.)інспектары забяспечваюць выданне і апублікаванне абавязковай пастановы СНК рэспублікі, абл. (край)выканкомаў і райвыканкомаў аб перапісу соц. прамысловасці, у адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 11 студзеня 1934 г. № 62.

3. Рэспубліканскія і абл.(край)УНГУ і рай(гор.)інспектуры арганізуюць персанальную сувязь з прадстаўнікамі ўстаноў і арганізацый, маючых прамысловыя прадпрыемствы, і паведамляюць ім парадак і тэрмін правядзення перапісу.

4. Абл.(край)УНГУ ў перыяд з 1-га па 15 лютага праводзяць інструктаж райінспектароў па правядзенню перапісу і ўручаюць ім бланкі перапісу.

Па зварочванні на месца райінспектарамі праводзіцца'старанны інструктаж участковых інспектароў, з'яўляючыхся асноўнымі работнікамі па правядзенню перапісу на сваім участку.

У перыяд з 15 па 25 лютага рай(гор)інспектары УНГУ склікаюць нарады з прадпрыемствамі і арганізацыямі, на якіх праводзіцца інструктаж па запаўненню бланкаў.

5. Перапіс прадпрыемстваў соцыялістыч. прамысловасці праводзіцца ў асноўным шляхам наведвання ўчастковымі і райінспектарамі прамысловых прадпрыемстваў з запаўненнем бланкаў на месцы ці кантроля загадзя выданых бланкаў.

Усе калгасы без выключэння павінны быць наведаны райінспектарамі ці ўчастковымі інспектарамі.

6. Бланкі павінны быць поўнасцю сабраны райінспектарам не пазней 5 сакавіка.

Тэрміны прадстаўлення запоўненых бланкаў для кожнага прадпрыемства ў адпаведнасці з агульнымі тэрмінамі правядзення перапісу ўстанаўліваюцца рай(гор.)інспектарам УНГУ.

7. Прадпрыемствы, не прадставіўшыя бланкі перапісу, прыцягваюцца да адказнасці. У выпадку яўна наўмысных скажэнняў даных, вінаватыя па ўзгадненню з абл.(край) УНГУ прыцягваюцца да адказнасці на аснове пастановы СНК СССР ад 11/I 1934 г. № 62 і пастановы ЦВК СССР ад 27/XI 1933 г. № 82/2530.

8. Абл.(край)УНГУ неабходна ўстанавіць на перыяд работы нагляданне за ходам работы ў кожнай райінспектуры.

На перыяд правядзення парапісу абласнымі ўпраўленнямі Наргасучота неабходна вылучыць з склада кіруючых работнікаў УНГУ асоб, адказных за праходжанне работы ў асобных раёнах.

9. Абавязаць рэспубліканскія (без абласнога дзялення) і абласныя (краявыя) УНГУ арганізаваць праверку запаўнення бланкаў на месцы, шляхам выезда ў раёны работнікаў УНГУ. Такога рода праверкай павінна быць ахоплена ў кожным раёне не менш 5 проц. прадпрыемстваў.

10. Не пазней 15-га сакавіка другія экземпляры бланкаў пры здатачнай ведамасці асабіста райінспектарам здаюцца ў рэспубліканскія, абл.(край)УНГУ.

11. Абласныя (краявыя) УНГУ да 5/IV прадстаўляюць у рэспубліканскія УНГУ асноўныя ітогі па ўсёй (буйнай і дробнай) прамысловасці (па матэрыялах перапісу і гадавых справаздачах).

Рэспубліканскія УНГУ прадстаўляюць у ЦУНГУ асноўныя ітогі па ўсёй прамысловасці не пазней 20/IV.

Асноўныя ітогі па ўсёй прамысловасці (буйнай і дробнай) заканчваюцца ў ЦУНГУ да 1/V.

Намеснік начальніка Цэнтральнага упраўлення народнагаспадарчага ўчота Дзяржплана СССР Цагурыя.

ЦУНГУ ДЗЯРЖПЛАНА СССР

Форма № 1

Усесаюзны перапіс (рэгістрацыя) соцыялістычнай прамысловасці

# Спіс прадпрыемстваў, падлягаючых перапісу па становішчу на 1/I 1938 года

Вобласць ______________________ раён ______________________

Графы 1—7 запаўняюцца абл.(край)УНГУ і дапаўняюцца раiінспектарам. Графы 8—11 запаўняюцца раiінспектарам

| №№ па парадку | Поўная і даклад-ная назва прад-прыемства | Месцазнахо-джанне (населены пункт) | Паштовы адрас | Назва арганіза-цыі, якой непа-срэдна падпарад-кавана прадпры-емства | Галіна прамысло-васці (від выпра-цоўкі вырабаў) | Па якой форме бланка павінна быць перапісана прадпрыемства | Адзнака аб вы-дачы бланка | Прозвішча асобы, адказнай за пра-вядзенне пера-пісу на прад-прыемствах | Графы для адзнак | Увага (паказаць змяненні: ліквi-дацыя разукруп-ненне, зліццё, узнікненне і г. д.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | | | | | | | | |

# Падрыхтоўка да ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 года

## ПАСТАНОВА

### Совета народных камісараў БССР

*21 снежня 1937 года* *гор. Менск*

**Аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва ў 1939 годзе.**

Улічваючы палітычнае і народна-гаспадарчае значэнне прадстаячага перапісу насельніцтва ў 1939 г., неабходнасць своечасовай і добраякаснай падрыхтоўкі да перапісу, Совет народных камісараў БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць усе акр.(рай)выканкомы і горсоветы на працягу снежня 1937 г. і студзеня 1938 г. правесці наступныя мерапрыемствы:

а) Устанавіць і зацвердзіць межы гарадоў, рабочых пасёлкаў і іншых гарадскіх паселішч.

б) Удакладніць па апошніх даных маючыяся карты і планы раёнаў, гарадоў і гарадскіх паселішч, а дзе іх няма,—скласці новыя.

в) Упарадкаваць назвы вуліц і нумарацыю ўсіх дамоў і кватэр у гарадах, рабочых пасёлках і інш. гарадскіх паселішчах.

г) Аказаць садзейнічанне раёінспектарам Наргасучота ў арганізацыі работ па складанню спіскаў населеных месц у сельскіх мясцовасцях і спіскаў домаўладанняў у гарадах, вылучыўшы ў дапамогу ўчастковым інспектарам членаў совецкага актыва, якія добра ведаюць мясцовасць, а таксама забяспечыць сродкамі перасоўвання ўнутры раёна.

2. Старшыням акр.(рай)выканкомаў і горсоветаў перыядычна заслухоўваць даклады раёінспектароў НГУ аб ходзе падрыхтоўчых работ да перапісу.

3. Абавязаць начальніка Ўпраўлення народна-гаспадарчага ўчота БССР 15 лютага 1938 г. далажыць СНК аб ходзе падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва.

Нам. старшыні Совета народных камісараў БССР А. Ананнеў.

Кіраўнік спраў СНК БССР М. Маньшаў.

## Усім начальнікам акр. УНГУ і райінспектарам наргасучота.

На інструкцыйнай нарадзе па пытанню падрыхтоўкі да перапісу насельніцтва 1939 года бюро перапісу насельніцтва УНГУ БССР абавязала ўсіх інспектароў НГУ, у мэтах паўнаты ахопа насельніцтва перапісам, пры складанні спіса населеных месц унасіць у гр. 7—10 кожную хутарскую гаспадарку, хаця-б яны былі аб'яднаны адной назвай.

У сувязі з тым, што райінспектар НГУ Круглянскага раёна тав. Максімовіч, не згадзіўшыся з дадзенай устаноўкай, падняў аб гэтым пытанне перад бюро перапісу ЦУНГУ, бюро перапісу насельніцтва УНГУ БССР друкуе тлумачэнне па гэтаму пытанню да ведама ўсіх інспектароў.

Начальнік бюро перапісу насельніцтва УНГУ БССР Каштанаў.

## Райінспектару НГУ Круглянскага раёна тав. Максімовічу.

## Копія УНГУ Беларускай ССР.

На Ваша пісьмо № 7/I ад 3/XII бюро перапісу насельніцтва ЦУНГУ растлумачвае, што занясенне ў гр. 7—11 спіса населеных месц асобна размешчаных будынкаў вытвараецца толькі з той мэтай, каб пазбегнуць прапускоў насельніцтва пры перапісу. Пагэтаму рашэнне рэспубліканскай нарады занасіць асобным радком (з запісам у гр. 7—11) у спіс кожную хутарскую гаспадарку, паколькі яна размешчана абасоблена, патрэбна прызнаць правільным. У гэтым выпадку ў гр. 1—6 павінна быць паказана агульная назва хутароў і лік пабудоў, гаспадарак і насельніцтва ў іх.

В. аб. нач. бюро перапісу насельніцтва ЦУНГУ Пісароў.

## УНГУ БССР.

*На Ваша пісьмо ад 4/XII—37 г.*

Бюро ўсесаюзнага перапісу насельніцтва ЦУНГУ лічыць правілловым Ваша ўказанне райінспектарам у адносіне ўнясення ў гр. 7—10 спіса кожнага хутара асобна, хаця-б некалькі хутароў і былі аб'яднаны агульнай назвай. Таксама правілова ўказанне і ў адносіне абавязковага наведвання ўчастковымі інспектарамі ўсіх хутароў пры складанні спісаў населеных месц. Гэта прадугледжана і інструкцыяй ЦУНГУ.

Прадоўжыць тэрмін сканчэння работы па складанню спісаў бюро ўсесаюзнага парапісу насельніцтва лічыць нямэтазгодным, так як далейшая выверка спісаў у УНГУ, безумоўна, выкліча рад дадатковых выпраўленняў спісаў, з выездам на месцы, і пры зацягванні асноўных тэрмінаў складання спіса, выверцы можа перашкодзіць веснавая бездараж.

Нам. нач. бюро ўсесаюзнага перапісу насельніцтва Староўскі.

# ПАСТАНОВА

## прэзідыума Крупскага раён. выканаўчага камітэта

*М. Крупкі* *16 снежня 1937 г.*

### Аб першапачатковым учоце ў сельсовеце.

Заслухаўшы даклад райінспектара НГУ тав. Шышпара аб становішчы ўчота па сельсоветах у 1937 годзе і завядзенні кніг учота на 1938-39 г., прэзідыум РВК адзначае, што па раду сельсоветаў учот пагаспадарчых кніг вядзецца дрэнна. Так, напрыклад, Бобрскі, Шэйскі, Ігрушэцкі, Шынкаўскі, Нацкі сельсовет і інш. не запоўнілі ўсе раздзелы пагаспадарчых кніг, а асабліва раздзел 1—спіс членаў сям'і; не гледзячы на рад указанняў з боку райінспектуры і прэзідыума РВК, старшыні сельсоветаў не ўявілі палітычнай важнасці завядзення ўчота.

Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Абавязаць райінспектара НГУ т. Шышпара склікаць нараду старшынь і сакратароў сельсовета, шырока абгаварыўшы пытанне першапачатковага ўчота сельсовета.

2. Абавязаць старшынь і сакратароў сельсоветаў з'явіцца на інструкцыйную нараду для атрымання кніг па выкліку райінспектуры Наргасучота.

3. Абавязаць сельсоветы пры атрыманні пагаспадарчых кніг і іншых бланкаў учота зараз-жа прыступіць шляхам падворнага абхода да запаўнення гэтых кніг, з такім разлікам, каб да 1-га студзеня 1938 года былі запоўнены раздзелы гэтых кніг, асабліва раздзел 1—спіс членаў сям'і— і II раздзел—зямля, пасевы, насаджэнні, пабудовы, спіс формы № 4 на стала пражываючых і форма № 4-а на часова пражываючых, алфавіты і журналы ф. А на калгасы, а таксама ў далейшым запаўняць усе раздзелы кніг у строга ўказаныя тэрміны і па меры паступлення суадпаведных матэрыялаў па ўчоту.

4. Абавязаць райінспектуру НГУ праз участковых інспектароў правяраць становішча ўчота па сельсовету і дакладваць прэзідыуму РВК.

В. аб. старшыні Віннікаў.

Сакратар РВК Мацкевіч.

# ПАСТАНОВА

## прэзідыума Глускага раённага выканаўчага камітэта

*ад 15/XII 1937 года.*

„Аб становішчы пярвічнага ўчота ў сельсоветах за 1937 год і падрыхтоўцы да завядзення кніг пярвічнага ўчота на 1938 год".

Заслухаўшы райінспектара Наргасучота т. Ельніцкага аб становішчы пярвічнага ўчота ў сельсоветах за 1937 г. і падрыхтоўцы да завядзення кніг пярвічнага ўчота на 1938 год, прэзідыум РВК пастанаўляе:

Прапанаваць райінспектару Наргасучота т. Ельніцкаму правесці інструктаж сакратароў сельсоветаў па пытанню вядзення кніг пярвічнага ўчота на 1938 г., не пазней 25/XII—37 г. склікаць нараду сакратароў сельсоветаў і на гэтай-жа нарадзе ўручыць кнігі пярвічнага ўчота на 1938-39 гг.

Абавязаць старшынь і сакратароў сельсоветаў пад іх асабістую адказнасць забяспечыць запаўненне кніг пярвічнага ўчота па ўсіх катэгорыях гаспадарак на 1938 г., неабходныя раздзелы, як-та: разд. I і III не пазней 20/I—38 г., і на працягу ўсяго года своечасова і добраякасна ўнасіць у астатнія раздзелы кніг неабходныя даныя па ўчоту ў кожнай гаспадарцы.

Улічваючы, што якасць правядзення прадстаячага перапісу насельніцтва 1939 г. цалкам будзе залежаць ад становішча ўчота насельніцтва па пагаспадарчых кнігах сельсоветаў і што пры правядзенні ўчота членаў сем'яў па кнігах 1938 г. пры наяўнасці кніг у сельсоветах за 1936-37 г. магчымы выпадкі капіравання членаў сем'яў і іншых даных, пагэтаму на час завядзення кніг 1938 г., г. зн. 25/XII—37 г. па 25/I—38 г.,—выключыць з сельсоветаў пагаспадарчыя кнігі 1936-37 г., здаўшы іх на хаванне на гэты тэрмін у райархіў.

Папярэдзіць сакратароў сельсоветаў, што запаўненне пагаспадарчых кніг павінна праходзіць выключна ў разрэзе кожнага паселішча і шляхам абавязковага апытання главы ці іншых членаў сям'і.

У звязку з тым, што ўчот ліку гаспадарак, аб'яднаемых сельсоветам, у 1937 г. пастаўлена ў сельсовеце нездавальняюча, абавязаць старшынь сельсоветаў і інспектуру НГУ пад іх асабісты кантроль забяспечыць поўны і добраякасны ўчот гаспадарак, аб'яднаемых сельсоветам, для чаго штоквартальна па гэтаму ўчоту правяраць работу сакратароў сельсоветаў.

У канцы студзеня 1938 г. заслухаць 2—3 сельсоветы і райінспектара Наргасучота т. Ельніцкага аб выкананні сельсаветамі гэтай пастановы.

Старшыня РВК Шыбко.

Сакратар Каваленка.

# ЗАГАД

## па Касцюковіцкаму райАНА

*ад 10 снежня 1937 года.*

Абследваннем пастаноўкі ўчота ў школах раёна на 1/X г.г., вытвараным інспектурай Наргасучота, устаноўлена, што ў радзе школ раёна ўчот або зусім адсутнічае, або пастаўлен нездавальняюча. У асобных школах не вядзецца ўчот маёмасці, адсутнічае інвентарная кніга (Крывоніўская школа, Дзержынская НСШ, Бароўская пачатковая школа, Гібальская, Прагрэская, Астроўская і Кіселеўская пачатковыя школы).

У радзе школ адсутнічае штодзённы ўчот наведвання школы вучнямі, не робяцца адзнакі ў класным журнале (Калодзеская школа, Брацьковіцкага сельсовета, Гібальская, Мурынборская), класныя журналы вядуцца дрэнна (Прагрэская, Астроўская пачатковыя школы, Калодзецкая, Бялынкавіцкая НСШ, Карабаноўская і Шарэйкоўская пачатковыя школы), у некаторых школах дрэнна пастаўлен учот інвентара.

Выходзячы з гэтага, загадваю:

1. За адсутнасць пастаноўкі належнага ўчота ў школах загадчыкаў школ Крывоніўскай—Чэрнышэва, Бароўскай школы—Баварэнку, Відуіцкай—Крупадзёрава, Гібальскай—Бераснева, Прагрэскай—Лебедзева, Астроўскай—Васільева, Кіселеўскай—Сілкіна—папярэдзіць.

2. Прапанаваць загадчыкам і дырэктарам пералічаных вышэй школ ліквідаваць маючыяся недахопы ў пастаноўцы ўчота не пазней 20 снежня 1937 года і аб выніках далажыць мне.

Напамінаю ўсім загадчыкам і дырэктарам школ, што яны нясуць персанальную адказнасць за пастаноўку ўчота ў школах і за адсутнасць яго ці дрэнную пастаноўку будуць прыцягвацца да строгай адказнасці.

Загадчык райАНА Калюта.

Спіс райінспектур, якія ўключыліся ў соцспаборніцтва

| №№ п. п. | Уключыліся ў соцспаборніцтва | З якой інспектурай спаборнічае |
|---|---|---|
| 1 | Лепельская акр. УНГУ . . . . . . | З Полацкай акр. УНГУ |
| 2 | Лельчыцкая . . . . . . . . . . . | „ Ельскай |
| 3 | Ельская . . . . . . . . . . . . | „ Нараўлянскай |
| 4 | Аршанская . . . . . . . . . . . | „ Гомельскай |
| 5 | Лепельская горінспектура . . . . | „ Полацкай горінспектурай |
| 6 | Асіпавіцкая . . . . . . . . . . . | „ Чэрвеньскай |
| 7 | Чаўская . . . . . . . . . . . . | „ Лепельскай, Дрыбінскай і Мсціслаўскай |
| 8 | Свяцілавіцкая . . . . . . . . . . | „ Ветрынскай |
| 9 | Уваравіцкая . . . . . . . . . . . | „ Буда-Кашалеўскай |
| 10 | Лоеўская . . . . . . . . . . . . | „ Камарынскай |

## СОЦУМОВА.

Мы, работнікі апарата райінспектуры Наргасучота Аршанскага р-на, сумесна з участковымі інспектарамі на інструкцыйнай нарадзе 7/XII—37 г. падвялі вынікі праведзечай работы за мінулы месяц і, улічваючы важнасць прадстаячых работ, як-та: падрыхтоўку і правядзенне перапісу жывёлы на 1/I 1938 года, складанне спісаў населеных месц, квартальна-гадавыя справаздачы калгасных таварных ферм, праверку і завядзенне сельсовецкага ўчота, учота ўстаноў народнай асветы,—бярэм на сябе наступныя абавязацельствы:

1. Падрыхтоўку да перапісу жывёлы і самы перапіс жывёлы пачаць і правесці ва ўстаноўлены тэрмін, добраякасна з ацэнкай не ніжэй як на „добра".

2. Падрыхтоўку і ход перапісу рэгулярна асвятляць у раённым друку.

3. Складанне спісаў населеных месц, удакладненне схематычных карт сельсовецкіх скончыць да 10 лютага 1938 г. і здаць матэрыял на „добра".

4. Правесці своечасова і добраякасна квартальна-гадавыя справаздачы калгасных таварных ферм і здаць на „выдатна".

5. Сістэматычна правяраць і дапамагаць сельсоветам у запаўненні пагаспадарчых кніг і наладжванні сельсовецкага ўчота.

6. Своечасова і добраякасна скончыць учот устаноў народнай асветы.

7. Забяспечыць своечасовую і добраякасную дасылку картак па працы.

8. Разгарнуць соцспаборніцтва паміж работнікамі апарата.

Па ўсіх вышэйпаказаных пунктах выклікаем на соцспаборніцтва Гомельскую райінспектуру Наргасучота.

Арбітрам просім быць УНГУ БССР.

ЧВА райінспектара НГУ Шэўнева.

Інструктары статыстыкі { Ляскоўская, Тікацыер.

Уч. інспектары { Сенчук, Лашчыноўскі, Лакізо, Шчытнікаў, Сахараў.

## СОЦУМОВА.

Мы, работнікі райінспектуры Наргасучота Гомельскага р-на, сабраўшыся 17 снежня 1937 г. для абгаварэння прысланай соцумовы Аршанскай райінспектурай Наргасучота, цалкам і поўнасцю прымаем выклік з указаннем ацэнак; з свайго боку дабаўляем:

1. Паставіць пярвічны ўчот па сельсоветах і калгасах участкаў і раёну ў цэлым так, каб нашы кіруючыя органы маглі атрымаць своечасова ў тэрмін, устаноўлены ўрадам, выверныя даныя. Для гэтага мы абавязваемся не толькі правяраць і дапамагаць работнікам сельсоветаў, але не радзей як у тры месяцы раз на прэзідыумах і пленумах сельсоветаў і на праўленнях калгасаў дакладваць аб становішчы справаздачнасці. У кожным асобным выпадку прынімаць канкрэтныя рашэнні.

2. Работу на ўчастках сярод работнікаў сельсоветаў і калгасаў абавязваемся праводзіць метадамі соцспаборніцтва.

3. Для забеспячэння лепшага поспеха ў правядзенні перапісу жывёлы, абавязваемся арганізаваць масава-растлумачальную работу па сельсоветах, ахапіўшы не менш 100 проц. насельніцтва.

4. Усю падрыхтоўку для перапісу насельніцтва праводзіць пад пунктам гледжання поўнага выканання інструкцыйных указанняў, а таксама поўнага ўдакладнення іншых работ, выцякаючых з асноўнага палажэння, найлепшага дасягнення поспеха ў перапісу насельніцтва.

5. Улічваючы тое, што з боку УНГУ БССР маюцца факты спазнення з дасылкай матэрыялаў і распараджэнняў, што не дае магчымасці выконваць работы ва ўстаноўлены тэрмін, патрабаваць ад Упраўлення народна-гаспадарчага ўчота БССР своечасовага спуску ўсіх распараджэнняў і матэрыялаў для правядзення ўскладзеных работ.

Райінспектар НГУ Ліберман.
Эканаміст Толпега.

Участковыя інспектары { Сідзельнікаў, Дзятлоў І., Дзятлоў.

## СОЦУМОВА.

Мы, работнікі райінспектуры Наргасучота Камарынскага раёна—райінспектар Васілеўскі, эканаміст Загальская, участковыя інспектары Шпетны, Пугачоў і Акуленка, абгаварыўшы пытанне на нарадзе 17 снежня 1937 г. аб становішчы падрыхтоўкі і задачах перапісу жывёлы на 1 студзеня 1938 года, бярэм на сябе наступныя абавязацельствы:

1. Весці масава-растлумачальную работу сярод працоўных мас Камарынскага раёна аб значэнні перапісу жывёлы.
2. Разгарнуць соцспаборніцтва сярод шчотчыкаў па перапісу жывёлы на лепшае і добраякаснае запаўненне картак у ўстаноўлены тэрмін згодна плана.
3. Асвятляць у друку ход падрыхтоўкі і правядзення перапісу жывёлы.
4. Правесці падрыхтоўку і самы перапіс жывёлы так, каб матэрыялы па перапісу здаць у УНГУ не ніжэй як на „добра".
5. Усю работу по перапісу жывёлы весці, строга прытрымліваючыся плана УНГУ.

Па ўсіх гэтых пунктах вызываем на соцспаборніцтва Брагінскую інспектуру Наргасучота.

Райінспектар Васілеўскі.

Эканаміст Загальская.

Участковыя інспектары { Шпетны, Пугачоў, Акуленка.

## СОЦУМОВА.

Мы, работнікі Асіповіцкай інспектуры народна-гаспадарчага ўчота—райінспектар Капорыкаў, участковыя інспектары Балуха, Баравік, Злобіч, статыстык Левіцкі, на нарадзе работнікаў ад 9/XII—37 года падвялі ітогі праведзенай работы за 11 месяцаў і, улічваючы палітычную важнасць правядзення чарговай работы па перапісу жывёлы на 1/I—38 года і квартальных гадавых справаздач па фермах калгасаў, а таксама ўчот працы і заработнай платы, бярэм на сябе наступныя абавязацельствы:

1. Правесці ўсю падрыхтоўчую работу да перапісу жывёлы (як падбор перапісных кадраў, а таксама і кантралёраў з зусім праверaных і дастойных людзей, якія забяспечаць гэту важнейшую работу) і ўвесь ход гэтай работы асвятляць у райгазеце.

2. Правесці масава-растлумачальную работу да перапісу жывёлы сярод калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых і служачых па раёну з такім разлікам, каб ахапіць усё насельніцтва на 100 проц.

3. Правесці інструктаж старэйшых і малодшых рэгістратараў і ўручыць увесь інструментарый па перапісу жывёлы з 20/XII па 28/XII—37 г.

4. Правесці самы перапіс жывёлы з 1/I па 6/I—38 года з 100-проц. ахопам усяго маючагася пагалоўя ў раёне.

5. Прадставіць папярэднія даныя па перапісу жывёлы ў УНГУ БССР 12/I—38 года і здаць увесь матэрыял 17/I—38 г., прычым па якасці матэрыял павінен быць з ацэнкай не ніжэй як на „добра".

6. Правесці распрацоўку квартальнай справаздачнасці ферм за IV кв. 1937 года да 15/I 1938 года.

Вывесці інспектуру па ўсіх паказчыках у першую катэгорыю на ўвесь 1938 год. Па ўсіх гэтых умовах выклікаем на соцспаборніцтва Чэрвеньскую інспектуру НГУ.

Арбітрам па выкананню гэтай соцумовы просім быць начальніка ўчотнай інспекцыі УНГУ БССР тав. Магідава.

Райінспектар **Капорыкаў.**

Участковыя інспектары { **Балуха, Баравік, Злобіч.**

Статыстык **Левіцкі.**

## СОЦУМОВА.

Мы, работнікі інспектуры Наргасучота Лельчыцкага раёна—райінспектар Грыцкевіч, участковыя інспектары: Буглак, Высоцкі і інструктар-статыстык Кліменкова, сабраўшыся на вытворча-інструкцыйную нараду ад 4/XII—37 г., падвялі вынікі праведзенай намі работы і распрацавалі план надыходзячых работ з распрацоўкай матэрыялаў па перапісу жывёлы і праверцы населеных месц (падрыхтоўка да перапісу насельніцтва). Улічваючы палітычна-гаспадарчую важнасць прадстаячых работ і асабліва падрыхтоўку правядзення ўсесаюзнага перапісу жывёлы, а таксама падрыхтоўку да перапісу насельніцтва, бярэм на сябе наступныя абавязацельствы:

1. Падрыхтоўку да перапісу і самы перапіс жывёлы правесці добраякасна і ў устаноўлены тэрмін, як-та: закончыць перапіс у сельсоветах 6/I—38 г. і ўсю распрацоўку матэрыялаў у раёне закончыць да 15/I—38 г.

2. Весці масава-растлумачальную работу сярод насельніцтва аб задачах і значэнні перапісу жывёлы, асвятляючы гэта пытанне ў друку.

3. Правесці праверку населеных месц, ахапіўшы ёю поўнасцю ўсе населеныя пункты раёна, і 70 проц. сельсоветаў правесці на працягу снежня месяца 1937 г., закончыўшы праверку па раёну 15/I 1938 г.

4. Дабіцца 100-працантнага выканання плана работ за снежань месяц па райінспектуры выключна добраякасным матэрыялам.

5. Гадавую справаздачную кампанію правесці ў тэрмін з выдатнай ацэнкай матэрыялаў, як-та: складанне квартальнай справаздачы па жывёлагадоўчых таварных фермах, праверку школ дарослых і г. д. з такім разлікам, каб райінспектуру вывесці з другой катэгорыі ў першую.

6. Дабіцца поўнага правядзення і наладжвання сельсовецкага ўчота, забяспечыўшы завядзенне кніг нізавога ўчота па сельсоветах на 1938-39 г. г. і разноску ўсяго насельніцтва і будынкаў да 15/I 1938 г., што безумоўна дасць магчымасць лепш падрыхтавацца да перапісу насельніцтва 1939 г.

7. Дабіцца наладжвання сапраўды соцыялістычнага ўчота ў калгасах і сельсоветах раёна, сістэматычна інструктаваць рахункаводаў калгасаў і сакратароў сельсоветаў, дапамагаючы ў наладжванні ўчота і справаздачнасці.

8. Участковым інспектарам ставіць пытанне ўчота і справаздачнасці на пасяджэннях праўленняў калгасаў і прэзідыумаў сельсоветаў, выпіску рашэння якіх дасылаць у райінспектуру.

9. Весці непрымірымую барацьбу з асобамі, увадзіўшымі незаконную справаздачнасць, а таксама з парушальнікамі тэрмінаў прадстаўлення справаздачнасці з вочкаўціраце льствам.

10. Па вышэйпамянёных пунктах выклікаем на соцспаборніцтва Ельскую райінспектуру.

Арбітрам просім быць нач. Мазырскага акр. УНГУ.

Райінспектар Грыцкевіч.

Участковыя інспектары { Буглак, Высоцкі.

Інструктар-статыстык Кліменкова.

## Ацэнка работы райінспектур наргасучота за снежань м-ц 1937 г.

| Назва раёнаў | Катэгорыі | Механічны рух насельніцтва | Натуральны рух насельн. | Інфармацыя па механічн. руху насельн. аб мерапрыемствах па палепшанию якасці матэрыяла | Бюджэты | Учот працы ў прамысловасці (ф. 1, 1-а) | Учот працы ў будаўніцтве | Прадстаўленне формы № 101 РВК | Сярэдні бал |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Асвейскі | 3 | 5 | 5 | 0 | — | 4 | 4 | 0 | 3,0 |
| 2. Асіпавіцкі | 4 | 4 | 5 | 0 | — | 2 | 3 | 0 | 2,3 |
| 3. Бабруйскі | 2 | 5 | 5 | 5 | — | 3 | 3 | 0 | 3,5 |
| 4. Багушэўскі | 3 | 4 | 5 | 0 | — | 3 | 3 | 0 | 2,5 |
| 5. Барысаўскі | 2 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 3 | 0 | 3,8 |
| 6. Бешанковіцкі | 2 | 5 | 5 | 5 | — | 3 | 3 | 0 | 3,5 |
| 7. Брагінскі | 3 | 5 | 5 | 0 | 2 | 2 | 3 | 0 | 3,4 |
| 8. Будакашалеўскі | 3 | 5 | 5 | 0 | — | 5 | — | 0 | 3,0 |
| 9. Быхаўскі | 4 | 4 | 3 | 0 | — | 3 | 3 | 0 | 2,1 |
| 10. Бягомльскі | 3 | 5 | 4 | 0 | — | 5 | 4 | 0 | 3,0 |
| 11. Бялыніцкі | 4 | 5 | 4 | 0 | — | 2 | — | 0 | 2,2 |
| 12. Бярэзінскі | 4 | 4 | 5 | 0 | 2 | 2 | 3 | 0 | 2,2 |
| 13. Веткаўскі | 4 | 4 | 4 | 0 | — | 3 | 2 | 0 | 2,1 |
| 14. Ветрынскі | 4 | 5 | 3 | 0 | — | 3 | 3 | 0 | 2.3 |
| 15. Віцебск (горад) | 3 | 3 | 5 | 0 | 3 | 3 | 3 | — | 2,8 |
| 16. Віцебскі | 4 | — | 5 | — | — | 2 | — | 0 | 2,3 |
| 17. Гарадоцкі | 4 | 4 | 4 | 0 | — | 2 | 2 | 0 | 2,0 |
| 18. Глускі | 4 | 4 | 5 | 0 | — | 2 | 3 | 0 | 2,3 |
| 19. Гомель (горад) | 3 | 4 | 5 | 0 | 5 | 3 | 3 | — | 3,3 |
| 20. Гомельскі | 3 | — | 5 | — | 3 | 4 | 3 | 0 | 3,0 |
| 21. Горацкі | 3 | 5 | 4 | 0 | 3 | 4 | 3 | 0 | 2,7 |
| 22. Грэскі | 3 | 5 | 5 | 5 | 2 | 2 | 2 | 0 | 3,0 |
| 23. Даманавіцкі | 4 | 3 | 5 | 0 | — | 3 | — | 0 | 2,2 |
| 24. Добрушскі | 4 | 2 | 3 | 0 | 3 | 2 | 4 | 0 | 2,0 |
| 25. Дрыбінскі | 3 | 4 | 5 | 0 | — | 3 | 4 | 0 | 2,6 |
| 26. Дрысенскі | 3 | 5 | 5 | 0 | 2 | 4 | 3 | 0 | 2,7 |
| 27. Дубровенскі | 4 | 4 | 5 | 0 | 3 | 2 | 2 | 0 | 2,2 |
| 28. Ельскі | 3 | 4 | 5 | 0 | — | 2 | 4 | 0 | 2,5 |
| 29. Жлобінскі | 4 | 3 | 3 | 0 | — | 3 | 4 | 0 | 2,1 |
| 30. Журавіцкі | 4 | 4 | 5 | 0 | — | 2 | 1 | 0 | 2,0 |
| 31. Жыткавіцкі | 4 | 5 | 4 | 0 | 2 | 2 | 4 | 0 | 2.4 |
| 32. Заслаўскі | 2 | 4 | 5 | 5 | — | 5 | 3 | 0 | 3,6 |
| 33. Камарынскі | 4 | 5 | 3 | 0 | — | 2 | 2 | 0 | 2,0 |
| 34. Капаткевіцкі | 4 | 4 | 4 | 0 | — | 2 | — | 0 | 2,0 |
| 35. Кармянскі | 3 | 4 | 4 | 0 | 3 | 5 | 4 | 0 | 2,8 |
| 36. Касцюковіцкі | 1 | 5 | 5 | 5 | — | 4 | 5 | 5 | 4,8 |
| 37. Кіраўскі | 2 | 5 | 5 | 5 | — | 4 | 3 | 0 | 3,6 |
| 38. Клімавіцкі | 3 | 4 | 4 | 5 | 3 | 3 | 4 | 0 | 3,2 |
| 39. Клічаўскі | 3 | 5 | 5 | 5 | — | 2 | 3 | 0 | 3,3 |
| 40. Копыльскі | 2 | 5 | 5 | 5 | — | 4 | 4 | 0 | 3,8 |
| 41. Круглянскі | 4 | 4 | 4 | 0 | — | 2 | 3 | 0 | 2,1 |
| 42. Крупскі | 2 | 5 | 5 | 5 | — | 4 | 2 | 0 | 3,5 |
| 43. Крычаўскі | 3 | 5 | 5 | 0 | — | 2 | 4 | 0 | 2,6 |
| 44. Лагойскі | 4 | 5 | 5 | 0 | — | 2 | — | 0 | 2,4 |
| 45. Лельчыцкі | 3 | 5 | 4 | 0 | — | 5 | 5 | 0 | 3,1 |
| 46. Лепель (город) | 2 | 4 | 4 | 5 | — | 3 | 3 | — | 3,8 |
| 47. Лепельскі | 4 | 4 | 3 | 0 | — | 2 | 3 | 0 | 2,0 |
| 48. Лёзненскі | 3 | 4 | 5 | 0 | — | 3 | 3 | 0 | 2,5 |

## Ацэнка работы райінспектур наргасучота за снежань м-ц 1937 г.

| Назва раёнаў | Катэгорыі | Механічны рух насельніцтва | Натуральны рух насельн. | Інфармацыя па механічн. руху насельн. аб мерапрыемствах па палепшанню якасці матэрыяла | Бюджэты | Учот працы ў прамысловасці (ф. 1, 1-а) | Учот працы ў будаўніцтве | Прадстаўленне формы № 101 РВК | Сярэдні бал |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 49. Лоеўскі | 2 | 4 | 3 | 5 | — | 5 | 4 | 0 | 3,5 |
| 50. Любаньскі | 3 | 5 | 5 | 0 | — | 5 | 5 | 0 | 3,3 |
| 51. Магілеў (горад) | 3 | 4 | 5 | 0 | — | 3 | 3 | — | 3,0 |
| 52. Магілеўскі | 4 | — | 4 | — | — | 2 | — | 0 | 2,0 |
| 53. Мазыр (горад) | 3 | 5 | 5 | 0 | — | 2 | 3 | — | 3,0 |
| 54. Мазырскі | 2 | 5 | 5 | 5 | — | 5 | 4 | 0 | 4,0 |
| 55. Менск (горад) | 3 | 3 | 5 | 0 | — | 3 | 3 | — | 2,8 |
| 56. Менскі | 4 | 4 | 1 | 0 | 3 | 4 | 3 | 0 | 2,1 |
| 57. Мехаўскі | 3 | 5 | 4 | 5 | — | 2 | 3 | 0 | 3,1 |
| 58. Мсціслаўскі | 3 | 5 | 4 | 5 | — | 2 | 3 | 0 | 3,1 |
| 59. Нараўлянскі | 2 | 5 | 5 | 5 | — | 5 | 3 | 0 | 3,8 |
| 60. Аршанскі | 2 | 5 | 5 | 5 | — | 4 | 3 | 0 | 3,6 |
| 61. Парыцкі | 4 | 4 | 3 | 0 | — | 2 | 3 | 0 | 2,0 |
| 62. Петрыкаўскі | 3 | 3 | 4 | 0 | — | 5 | 3 | 0 | 2,5 |
| 63. Плешчаніцкі | 3 | 3 | 4 | 0 | — | 5 | 4 | 0 | 2,6 |
| 64. Полацк (горад) | 3 | 4 | 5 | 0 | — | 4 | 4 | — | 3,4 |
| 65. Полацкі | 3 | 5 | 4 | 0 | — | 5 | 4 | 0 | 3,0 |
| 66. Прапойскі | 4 | 4 | 4 | 0 | — | — | 4 | 0 | 2,4 |
| 67. Пухавіцкі | 3 | 5 | 5 | 0 | — | 2 | 4 | 0 | 2,6 |
| 68. Рагачоўскі | 4 | 4 | 5 | 0 | — | 3 | 2 | 0 | 2,3 |
| 69. Расонскі | 3 | 5 | 4 | 0 | 4 | 5 | 4 | 0 | 3,1 |
| 70. Рэчыцкі | 3 | 5 | 4 | 5 | 5 | 2 | 3 | 0 | 3,4 |
| 71. Свяцілавіцкі | 3 | 5 | 4 | 5 | — | 3 | — | 0 | 3,4 |
| 72. Сенненскі | 4 | 5 | 5 | 0 | — | 2 | 2 | 0 | 2,3 |
| 73. Сіроцінскі | 3 | 5 | 5 | 0 | — | 3 | 3 | 0 | 2,6 |
| 74. Слуцк (горад) | 2 | 4 | 5 | 5 | — | 5 | 3 | — | 4,4 |
| 75. Слуцкі | 3 | 5 | 5 | 0 | 3 | 2 | 3 | 0 | 2,6 |
| 76. Смалявіцкі | 4 | 4 | 5 | 0 | — | 2 | 3 | 0 | 2,3 |
| 77. Смілавіцкі | 3 | 5 | 5 | 0 | — | 2 | 3 | 0 | 2,5 |
| 78. Старадарожскі | 2 | 5 | 5 | 5 | — | 4 | 3 | 0 | 3,6 |
| 79. Старобінскі | 3 | 5 | 4 | 0 | — | 5 | 3 | 0 | 2,8 |
| 80. Суражскі | 4 | 4 | 4 | 0 | 3 | 3 | 3 | 0 | 2,4 |
| 81. Талачынскі | 4 | 5 | 1 | 0 | — | 4 | 3 | 0 | 2,1 |
| 82. Тураўскі | 4 | 5 | 5 | 0 | — | 2 | — | 0 | 2,4 |
| 83. Уваравіцкі | 4 | 5 | 4 | 0 | — | 2 | 3 | 0 | 2,3 |
| 84. Уздзенскі | 3 | 4 | 5 | 0 | — | 5 | 4 | 0 | 3,0 |
| 85. Ушацкі | 3 | 5 | 4 | 0 | — | 4 | 4 | 0 | 2,8 |
| 86. Халопеніцкі | 2 | 4 | 5 | 5 | — | 5 | — | 0 | 3,8 |
| 87. Хоцімскі | 4 | 5 | 4 | 0 | — | 2 | 3 | 0 | 2,3 |
| 88. Хойніцкі | 2 | 5 | 5 | 5 | — | 3 | 3 | 0 | 3,5 |
| 89. Церахоўскі | 4 | 5 | 5 | 0 | — | 2 | — | 0 | 2,4 |
| 90. Чавускі | 3 | 5 | 5 | 0 | — | 5 | 4 | 0 | 3,1 |
| 91. Чачэрскі | 3 | 5 | 4 | 0 | — | 4 | — | 0 | 2,6 |
| 92. Чашніцкі | 3 | 4 | 5 | 0 | 2 | 3 | 4 | 0 | 2,5 |
| 93. Чырвонапольскі | 4 | 5 | 3 | 0 | — | 2 | — | 0 | 2,0 |
| 94. Чырвонаслабодскі | 3 | 5 | 4 | 5 | — | 2 | — | 0 | 3,2 |
| 95. Чэрвеньскі | 3 | 5 | 5 | 0 | — | 4 | 4 | 0 | 3,0 |
| 96. Чэрыкаўскі | 2 | 5 | 5 | 5 | — | 4 | 3 | 0 | 3,6 |
| 97. Шклоўскі | 2 | 5 | 5 | 5 | — | 4 | 4 | 0 | 3,8 |

